**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№34(698) 22 жніўня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

ІП Раманчук Д.С. магазін «Крышталь» на вул. Леніна, 114-А УНП 300018852
**Вокны ПВХ**
Алюмініевыя балконныя рамы
Дзверы металічныя і міжпакаёвыя
Гаражныя вароты
высокая якасць, нізкія кошты, зніжкі
замер, дастаўка, устаноўка, без % растэрміноўка аплаты
мтс: (029) 716-28-26

Молодечненские
**ОКНА ПВХ**
АЛЮМИНИЕВЫЕ РАМЫ + МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ
НЕМЕЦКИЙ ПЛАСТИК FORIS (Германия 100%) без свинца
Профессиональный монтаж
Собственное производство
тел. 8 (029) 641-62-94 (velcom); 8 (029( 857-35-43 (мтс)
ООО "Рекомпласт" г. Молодечно, УНП 690450197

Филиал оптовой центр "Гомельшина"
**ОАО "ГОМЕЛЬХИМТОРГ"**
ШИНЫ
175/70R13 Бел-103 - 309.200 руб.
185/65R14 Бел-94 - 376.350 руб.
185/70R14 Бел-97 - 406.750 руб.
205/70R14 Бел-59 - 520.750 руб.
195-70R15C Бел-171 - 671.350 руб.
175/70R13 Бел-188 - 358.350 руб.
175/65R14 Бел-227 - 357.750 руб.
185/65R14 Бел-187 - 383.900 руб.
195/65R15 Бел-247 - 479.100 руб.
205/55R16 Бел-207 - 667.200 руб.
Филиал ОЦ "Гомельшина"
Архив
ул. Госпитальная
ул. Московская
Время работы: с 8:30 до 17:00
Суббота, воскресенье – выходные
г. Глубокое, ул. Госпитальная, 3
УНП 400537427

ІП Чубінскі Е.Г.; УНП 391050215
магазін «Фаварыт»
мтс: (029) 732-73-00; мтс: (029) 539-73-00 мтс: (033) 695-88-36
на Маскоўскай, 10, 2-гі паверх
- камп'ютары,
- ноўтбукі,
- камплектуючыя,
- аргтэхніка,
- аксесуары,
- рамонт і абслугоўванне,
- запраўка і рамонт картрыджаў
- фотаапараты, - тэлефоны, – ВК тэлевізары
Без % крэдыт

В ТОРГОВОЙ СЕТИ «ХОРС-МОТОРС» www.moto-minsk.by www.vales.by
HORS MOTORS
НОВОЕ ПОСТУПЛЕНИЕ!!!
МОТОКУЛЬТИВАТОР M 200 G 9
ГАРАНТИЯ ЗАПЧАСТИ СЕРВИС КРЕДИТ
Двигатель мощностью 9 л.с.
А ТАКЖЕ В ПРОДАЖЕ: скутеры; квадроциклы; бензокосы; бензопилы; мотокультиваторы; сварочные аппараты; бензогенераторы; мотопомпы; компрессоры; бетономешалки; мотоблоки МТЗ; двигатели к мотоблокам МТЗ
БОЛЬШИЕ КОЛЕСА
НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ
г. Глубокое, рынок «ОДО Верас», ул. Гагарина, 4
тел.: 8 (033) 320-82-02 8(044) 534-58-74

Магазин "Life Moda"
приглашает за покупками ежедневно (кроме понедельника)
с 10.00 до 18.00
по адресу: г. Глубокое, ул. Ленина, 44"а"
Предъявителю купона - скидка 5%
(действует до 31.08.2013)
КУПОН 5%
391075040 от 04.04.2013 г. Докшицким РИК



**У Глыбокім прайшлі жалобныя мерапрыемствы на ўшанаванне памяці тых, хто 70 гадоў таму стаўся ахвярай расстрэлу яўрэйскага гета.** Працяг тэмы на стар. 4 і 5. *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

НИКС КОМПЬЮТЕРНЫЙ СУПЕРМАРКЕТ
www.NIX2.by ИНТЕРНЕТ МАГАЗИН 613-2223 (единый GSM) 8 02156 50460
- Компьютеры - Комплектующее - Ноутбуки - Планшеты - ЖК телевизоры - Мониторы - Принтеры и МФУ
- Фото-Видео аппараты - Электроинструмент Makita - Коммуникаторы, сотовые телефоны - Навигаторы - Расходные материалы - и много другое...
Московские цены и наличие в Глубоком!*
Более 15 000 товаров!
ТЦ«Для Вас» г.Глубокое, ул. Ленина, 44А

Рэклама ў газеце «ВГ»,
тэл.: 8(029) 813-99-99

производство и продажа
**ПЛИТКА ТРОТУАРНАЯ**
возможна доставка и укладка
тел.: (029) 513-97-05 мтс;
(033) 610-73-58 мтс
ООО "Мирий" УНП 391530115

ОАО "Глубокский мясокомбинат"
на постоянную работу требуются:
водитель автомобиля, слесарь КИПа, слесарь-ремонтник, слесарь по ремонту торгового холодильного оборудования, машинист компрессорных установок, электрогазосварщик, обвальщик мяса, составитель фарша, засольщик мяса и мясопродуктов, жиловщик мяса и субпродуктов, обработчик колбасных изделий, уборщик производственных помещений в убойный участок, продавец в фирменный магазин №1,
заработная плата от 3 млн. руб.
г. Глубокое, ул. Московская, 81
телефон: 2-62-10
УНП 300019501
Филиалу «Голубичи» требуются:
главный ветеринарный врач, главный зоотехник, ветеринарный врач.
Справки по адресу: д. Голубичи, телефон - 3-40-40.
Филиалу «Короли» требуются:
главный зоотехник, зоотехник-селекционер, главный ветеринарный врач, главный экономист
Справки по адресу: д. Обруб-Ластовичский, телефон - 3-99-43.

САЛОН МЕБЕЛИ
ДОМИНО МЕБЕЛЬ
УНП 390521577
● КУХНИ, ОБЕДЕННЫЕ ЗОНЫ
● СПАЛЬНИ, КРОВАТИ
● ОРТОПЕД. МАТРАЦЫ
● МЯГКАЯ МЕБЕЛЬ
● СТЕНКИ, ГОРКИ, КОМОДЫ
● ДЕТСКИЕ, ПРИХОЖИЕ,
● КОМП.СТОЛЫ, СТУЛЬЯ, ШКАФЫ-КУПЕ
У НАС ЕСТЬ ТО, ЧТО ВАМ НУЖНО!
Дисконтная система скидок
ООО "Про-Мебель"
КРЕДИТ на месте
РАССРОЧКА до 6 месяцев
возможна оплата пластиковой картой
г. Глубокое. Район МКК. В сети магазинов напротив комбикормового завода
тел. (375 33) 69 69 200
тел. (375 29) 918 55 33
т/ф. 8 (0214) 52 95 48
e-mail: PRO-MEBEL69@MAIL.RU

ПУП «Аўта-Забота»
Запраўка і праверка кандыцыянераў на прафесійным абсталяванні
тэл.: (02156) 2-65-94; 8 (029) 299-13-64
УНП 390389856

ноутбуки
В наличии и под заказ
Asus, Dell, Lenovo, Samsung. Всегда в наличии 15-20 моделей.
А также цифровые фотокамеры, навигаторы, бытовая техника.
магазин на Ленина, 7-А
ABC
2-11-55
Кредит на 2 года без первого взноса
ИП Кравец Е.К. УНП 390487450

Двери металлические межкомнатные
кредит до 36 месяцев
Без первоначального взноса, без % рассрочка, оформление на дому
Обмер, консультация, доставка – бесплатно
Гарантия – 24 месяца
(029) 516-20-21
Мы пришли всерьёз и надолго!
Отличные окна ПВХ. 5 цветов профиля
УНП 391531165

**Віцебскі раён**

# Падманам сыты не будзеш

■ Чэслаў Якубовіч

**Самая горшая сітуацыя ў краіне са станам спраў у сельскай гаспадарцы менавіта на Віцебшчыне, што непакоіць ужо і ўрад.**

А вось праверкі спецыялістаў Камітэта дзяржкантролю выявілі да таго ж і шматлікія прыпіскі і грубыя падтасоўкі статыстычных дадзеных. У прыватнасці, у закрытым нядаўна з-за эпідэміі афрыканскай чумы свіней свінакомплексе ў Віцебскім раёне на паперы паказалі прырост тысячы тон свініны. Там дадумаліся да таго, што сваю безгаспадарчасць увогуле прыхавалі дзіўным спосабам. На выпойванне парасят на працягу двух месяцаў па прадуктыўнасці свінаматкі аказаліся лепшымі за дойных кароў за год. Аднак вынікі праверак былі балюча ўспрыняты абласным кіраўніцтвам, хоць дырэктара свінакомплексу за правалы ў рабоце перавялі на аналагічную пасаду ў суседнім Сенненскім раёне. Не лепшае становішча ў Прыдзвінні і ў малочнай жывёлагадоўлі. Каб схаваць свае пралікі, заняліся на фермах вобласці звыклай справай прыпісак. З пачатку года на выпайванне цялят у сярэднім па Віцебшчыне спісалі амаль па 590 літраў малака. Па справаздачах, адсюль на Віцебшчыне самая нізкая ў Беларусі таварнасць малака. Далей за іншых пайшоў тут Аршанскі раён, дзе толькі за 5 месяцаў на адну галаву маладняка быццам выпаілі па тоне і болей малака. Страты ад такой вось дзейнасці склалі амаль 7 млрд. рублёў. Горш таго, у адной з мясцовых гаспадарак малако было спісана і на 143 цяляці, якія ўвогуле не нарадзіліся, але на выпойванне "мёртвых душ" паказваліся быццам надоеныя тоны сырадою. У такім выпадку такія справы ўжо праходзяць і па лініі крымінальнай адказнасці.

**Пастаўскі раён**

# Пуці – артэрыі жыцця

■ Кастусь Александровіч

**Хоць практычна ў кожнай беларускай сям'і зараз ёсць легкавушкі, але па-ранейшаму Беларуская чыгунка ў сярэднім за год 10 разоў перавозіць кожнага беларуса ў розныя пункты прызначэння.**

Такія дадзеныя прыводзіліся на народных гулянях у гарпасёлку Варапаева з нагоды Дня чыгуначніка, дзе іх па традыцыі шмат дзесяцігоддзяў арганізуе мясцовая дыстанцыя пуці. Яе падраздзяленні размешчаны не толькі ў Пастаўскім раёне, але і ў яшчэ шасці раёнах на захадзе вобласці. Да свайго прафесійнага свята тут зноў падышлі з важкімі працоўнымі дасягненнямі, бо дыстанцыя пуці з Варапаева адна з лепшых аналагічных на чыгунцы і ў Віцебскім аддзяленні. Заняліся ў калектыве і мадэрнізацыяй, адрамантавалі і перааснасцілі свае механічныя майстэрні. У гэтым годзе завершаць тэхпераўзбраенне кацельні, ужо заасфальтавалі ўсю тэрыторыю, набылі для сваіх участкаў некалькі адзінак сродкаў малой механізацыі. Для забеспячэння бяспекі руху сёлета неўзабаве будзе закончана замена драўляных шпал на жалезабетонныя на ўчастку да прыгранічнай станцыі Лынтупы на апошніх 10 км. Работнікі дыстанцыі абслугоўваюць усяго больш 300 км магістраляў. Напярэдадні свята шэраг работнікаў дыстанцыі за высокі прафесіяналізм і дасягненні ў працы адзначылі на ўрачыстасцях у беларускай сталіцы, а таксама на сходзе Віцебскага аддзялення чыгункі. На сваім сямейным святе ў парку таксама ўшанавалі лепшых работнікаў і вялікую групу ветэранаў дыстанцыі пуці, якім уручылі важкія грашовыя прэміі. Пасля афіцыйнай часткі і свята спорту на адкрытым паветры палепшыла настрой чыгуначнікам і вялікая канцэртная праграма з удзелам гасцей, ансамбля казацкай песні "Бацька атаман".

**Верхнядзвінскі раён**

# Гэта трэба жывым

■ Станіслаў Раманчук

**Некалькі дзесяцігоддзяўпрайшлопаслязаканчэння Другой Сусветнай вайны, але па-ранейшаму трывожаць сэрца тыя суровыя падзеі, а ў зямлі яшчэ знаходзяць рэшткі знішчаных невядомых людзей і забітых салдат.**

Да ліку самых пацярпелых у Беларусі адносіцца і Верхнядзвінскі раён. На яго тэрыторыі да ўварвання фашыстаў пражывала каля 50 тысяч чалавек, а пасля вайны колькасць насельніцтва скарацілася да 22 тысяч. Аб гэтым узгадвалася днямі на тэрыторыі былых яўрэйскіх могілак у райцэнтры, дзе ва ўрачыста-жалобнай абсноўцы адкрылі гранітны двухметровы памятны знак памяці яўрэяў-ахвяраў Халакосту. Ганаровага госця, надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Ізраіля ў Беларусі Іосіфа Шагала ўразіла, колькі гараджан розных узростаў прыйшло на месца масавага расстрэлу жыхароў мясцовага гетта ў пачатку лютага 1942 года. У той чорны дзень ізвергі ў нацысцкай форме тут знішчылі 769 чалавек, чыя віна была ў тым, што яны не той расы. Гэты помнік у райцэнтры з'явіўся дзякуючы сем'ям Гейслераў і Клетэраў з ЗША, а таксама сямейнай пары Лазарусаў з Англіі, якія стварылі дабрачынны фонд па ўвекавечванні памяці ахвяр фашызму. На працягу 7 апошніх гадоў з яго дапамогай толькі ў Беларусі адкрылі 70 падобных помнікаў, з якіх яшчэ мемарыяльныя знакі паўсталі ў Асвеі і ў трох вёсках раёна, дзе масава знішчылі яўрэяў. З-за акіяна спецыяльна прыехаў адзін з кіраўнікоў фонду Майкл Лазарус і падзякаваў беларусам за тое, што яны шануюць памяць ахвяр вайны і ўсведамляюць увесь маштаб трагедыі, калі на беларускай зямлі загінуў кожны трэці яе жыхар.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 22.08.13 | | | | Пятніца 23.08.13 | | | | Субота 24.08.13 | | | | Нядзеля 25.08.13 | | | | Пнд.26.08.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +18 | +22 | +17 | +13 | +14 | +16 | +13 | +11 | +13 | +14 | +12 | +10 | +11 | +15 | +12 | +11 | +14 | +18 |
| Ціск | 751 | 750 | 749 | 748 | 747 | 747 | 747 | 747 | 746 | 745 | 745 | 746 | 746 | 747 | 748 | 748 | 747 | 748 | 748 |
| Вільготнасць | 100 | 96 | 78 | 93 | 100 | 100 | 93 | 99 | 100 | 99 | 93 | 98 | 100 | 99 | 86 | 97 | 100 | 99 | 72 |
| Вецер м/сек | 3 Пн | 5 Пн-У | 3 Пн | 5 Пн | 5 Пн | 7 Пн | 5 Пн | 7 Пн | 8 Пн | 8 Пн | 9 Пн-У | 10 Пн-У | 8 Пн | 8 Пн-У | 6 Пн | 5 Пн | 3 Пн | 4 Пн-У | 3 У |

# Аб самым надзённым

## ЗАКОНАПАСЛУХМЯНЫЯ ЛЮДЗІ ЛЕТАМ ВЫМУШАНЫ БЫЛІ ЗАНЯЦЦА МАСАВАЙ КОЛКАЙ СВІНЕЙ І КУПЛЯЦЬ МАРАЗІЛЬНІКІ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Там, дзе выяўляецца хоць бы бы адзін выпадак вірусу, пад нож пойдзе ўсё пагалоўе, а іншага выхаду проста няма. На шчасце, хоць для здароўя людзей АЧС не прадстаўляе небяспекі.**

Гэты год запомніцца многім беларусам не толькі анамальна працяглай зімой, але і тым, што многія суайчыннікі сутыкнуліся з эпідэміяй афрыканскай чумы свіней. На фоне спачатку адчувальнага інфармацыйнага вакууму геаграфія гэтай страшнай навалы ахоплівае ўсё больш і больш рэгіёнаў Беларусі. І хоць у нас на Віцебшчыне паведамілі, што выяўлены ачаг АЧС на свінакомплексе "Лучоса" паблізу абласнога цэнтра лакалізавалі, ужо ў пачатку жніўня прыйшлося прыбегнуць да поўнага знішчэння свінога пагалоўя на панадворках насельніцтва ў адразу 7 раёнах вобласці.

Праўда, у дзяржаўных СМІ пра гэта па дрэннай завядзёнцы прамаўчалі, як і пра тое, што на афіцыйна прызнаным ачагу АЧС у Віцебскім раёне прыйшлося вялізны свінакомплекс выразаць. Аднак дасведчаныя спецыялісты ведалі, што там у прысутнасці начальства вобласці і Мінсельгасхарча Беларусі капалі ямы глыбінёй 6-7 метраў, перасыпаныя патрэбнымі хімікатамі для гэтай "брацкай магілы" свіней. Між тым, вядома, што справіцца з афрыканскай чумой свіней можна вось толькі такімі радыкальнымі метадамі, якія балюча закранулі многіх суайчыннікаў і асабліва прыватнікаў, уладальнікаў невялікіх свінаферм.

Канешне, у нас многае робіцца для таго, каб трымаць няпростую сітуацыю пад кантролем і пастарацца выратаваць ад краху буйныя свінакомплексы. Дарэчы, да бяды ў Лучосе хутчэй усяго прывялі менавіта асноўныя пераносчыкі АЧС – дзікі, бо паблізу гэтага закрытага цяпер свінакомплексу знайшлі інфіцыраваны труп хворага чумой дзікага кабана. Можна ўявіць, колькі з гэтай тушай кантактавалі вароны, пацукі, насякомыя, якія і панеслі заразу далей. Вось чаму ўсе буйныя свінагадоўчыя памяшканні тэрмінова перайшлі на закрыты рэжым працы і ўзмоцненую ахову.

З гэтай сітуацыі, найперш каб захаваць пагалоўе свіней на свінакомплексах ( іншы варыянт: Беларусь зусім застанецца без свіней ) існуюць толькі два выхады. Спецыялісты ветэрынары лічаць, што трэба пастарацца ў нашай краіне найперш максімальна знішчыць папуляцыю дзікага кабана. Іх пагалоўе ў лясных масівах у нас налічваецца каля 80 тысяч галоў і пазбавіцца ад дзікоў удасца на працягу да 2-х гадоў. Другі і таксама непапулярны крок – гэта хуткае на працягу месяца знішчэнне насельніцтвам свіней для ўласных патрэб.

І доўга думаць тут не выпадае, а нашы ў асноўным законапаслухмяныя людзі летам вымушаны былі заняцца масавай колкай свіней і купляць маразільнікі. У іншым выпадку нават у буферных зонах па АЧС (на Віцебшчыне такімі прызналі астатнія 14 раёнаў) тушы свіней павінны выкупляцца ў насельніцтва, а мяса ісці на прамысловую тэрмічную перапрацоўку і потым на тушонкі, вараныя каўбасы. Праўда, Віцебскаму мясакамбінату не пазайздросціш: ягоная прадукцыя нікуды не прадаецца за граніцу і ўнутры краіны яе цяпер цяжка рэалізаваць, бо сыравіна была з небяспечнай зоны.

Як паказвае развіццё падзей, у паграажаемую зону ў сувязі з АЧС дабаўляецца ўсё болей населеных пунктаў па ўсёй краіне, дзе свіней забіваюць бяскроўным метадам. Там, дзе выяўляецца хоць бы бы адзін выпадак вірусу, пад нож пойдзе ўсё пагалоўе, а іншага выхаду проста няма. На шчасце, хоць для здароўя людзей АЧС не прадстаўляе небяспекі.

Аднак насельніцтву трэба рыхтавацца да таго, што і ў чыстых пакуль зонах з цягам часу ад свіней на панадворках прыйдзецца пазбавіцца.

На фоне такой вось вымушанай пагалоўшчыны свіней у айчыннай эканоміцы праблем не змяншаецца, хоць і ўдалося стабілізаваць сітуацыю на фінансавым рынку Беларусі. Але па-ранейшаму наша склады перапоўнены непрададзенымі таварамі, а галоўнае, што зноў пачаліся супярэчнасці з нашым галоўным партнёрам у гандлі Расіяй. Самае галоўнае, што перастаў дзейнічаць сіндыкат "Беларуськалія" з яго расійскім партнёрам. "Уралкалій" не толькі выйшаў са складу Беларускай калійнай кампаніі, але і пагражае нам абвальным дэмпінгам цэн, а гэта ўжо могуць быць сур'ёзныя страты валюты. У дадатак сумна вядомы галоўны санітарны ўрач РФ Генадзь Аніўчанка публічна папракнуў Беларусь у рэакспартных пастаўках віна і цукерак і ў тым, што яна завозіць у Расію малака болей, чым атрымоўвае на фермах. Няўжо запахла прывідам новай малочнай вайны? Дарэчы, можа і пра чуму свіней у нас болей маўчаць, каб расіяне зусім не адмовіліся ад нашых стратэгічных тавараў – малака і мяса. Як бы далей не было, а пакуль свінагадоўля ў нас пад небяспекай, а ў многіх рэгіёнах пра развядзенне свінак людзям прыйдзецца забыць мінімум на пару гадоў.

## Дзень за днём

**Знешні дзяржаўны доўг краіны з пачатку года імкліва вырас яшчэ на 9 % і перавысіў 12,4 млрд. долараў. У вёсках паблізу ўсіх свінакомплексаў Беларусі насельніцтву забаранілі трымаць свіней, абмяркоўваецца пытанне поўнага знішчэння дзікіх кабаноў і забароны людзям займацца свінагадоўляй. За ігнараванне забароны трымаць свіней беларусаў могуць нават кінуць у турму на 2 гады, калі гэты выпадак прывядзе да распаўсюджання афрыканскай чумы. Для беларусаў зноў падаражэлі электрычнасць і ацяпленне кватэр на 9-14 %, цыгарэты. У краіне прыбавілася доўгажыхароў, 555 чалавек пераадолелі рубеж 100 гадоў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** З-за зацяжной грамадзянскай вайны ўцяклі з краіны ў суседнія дзяржавы ўжо больш 2 млн. чалавек, па дадзеных ААН яшчэ 4 млн. сірыйцаў засталіся без жылля.

**Латвія.** Услед за Літвой краіна ўявіла на мяжы з Беларуссю татальны ветэрынарны кантроль і ўздоўж граніцы хоча ўзвесці плот для дзікоў, хворых на афрыканскую чуму.

**Літва.** МЗС краіны не выключыў, што Літва ў перспектыве вынесе пытанне бяспекі будаўніцтва АЭС паблізу сталіцы Вільнюса на міжнародны ўзровень Канвенцыі Эспо.

**Егіпет.** Шэраг нападзенняў на ваенныя аб'екты краіны ажыццявілі з Сінайскага паўвострава ісламісты, якія падтрымліваюць радыкальныя групоўкі ХАМАС і "Хезбола".

**Пакістан.** Новым прэзідэнтам краіны выбралі ў парламенце дзеяча Пакістанскай мусульманскай лігі Мамнуха Хусейна, за яго аддалі галасы 387 з 706 дэпутатаў.

**Іран.** Насуперак спадзяваннем і новаабраны прэзідэнт-рэфарматар Хасан Раўхані на мітынгу ў Тэгеране заклікаў знішчыць ворага мусульман, сіяніцкую дзяржаву Ізраіль.

**Італія.** З-за пажылога ўзросту 76-гадовы былы прэм'ер-міністр Сільвіо Берлусконі пачаў пад дамашнім арыштам адбываць прысуд - 1 год зняволення пасля амністыі.

**Зімбабвэ.** Выбарчая камісія краіны абвясціла прэстарэлага 89-гадовага Роберта Мугабэ пераможцам у сёмы раз запар прэзідэнцкіх выбараў, апазіцыя не лічыць іх чэснымі.

**Польшча.** Лідар КХП-БНФ у эміграцыі Зянон Пазняк выступіў супраць уваходжання Беларусі ў ЕС адразу пасля змены ўлады, пакуль краіна не ўстане на ногі і не ўмацуе рынак.

**Грэцыя.** Па стартавай цане 10 мільёнаў еўра зноў выставілі на аўкцыён у верасні востраў Спалатраніс ў Эгейскім моры, вясной эмір Катара тут купіў 6 бязлюдных малых астравоў.

**Расія.** Былы супрацоўнік ЦРУ ЗША Эдвард Сноўдэн атрымаў тут прытулак, расказаў пра яшчэ адну сакрэтную праграму вывучэння дзеянняў людзей, карыстальнікаў Інтэрнэту.

**Балгарыя.** Еўрасаюз выказаў падтрымку маніфестантам, якія трэці месяц запар дабіваюцца адстаўкі чацвёртага за гэты год Кабінета міністраў краіны сацыялістаў.

**Швецыя.** Па віне следчых мужчыну 20 гадоў лічылі вінаватым у 8-мі забойствах, яго прызналі пасля серыі судовых працэсаў невінаватым і выпусцяць з псіхіятрычнай клінікі.

**Карэя.** У сусветныя лідары па вытворчасці бытавой электронікі выйшла кампанія Samsung, у 2-м квартале года яна прадала 75 мільёнаў сваіх смартфонаў (7 мільярдаў долараў прыбытку).

**Туркменістан.** Са школьнай праграмы выключылі вывучэнне дзецьмі "свяшчэннай кнігі" – "Рухнама", напісанай памерлым Туркменбашы ў 2000 годзе падчас яго культу асобы.

# Адключэнне аналагавага тэлевяшчання ў Віцебскай вобласці пачнецца з красавіка 2014 года



■ Сяржук Серабро

**Адключэнне аналагавага тэлевізійнага вяшчання на тэрыторыі Віцебскай вобласці пачнецца з 1 красавіка 2014 года. Пра гэта паведамілі карэспандэнту БелТА ў Віцебскім абласным вузле радыёвяшчання і тэлебачання, філіяле рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Беларускі радыётэлевізійны перадаючы цэнтр».**

У адпаведнасці з графікам аналагаваетэлевяшчанне праз РТПС (радыётэлевізійная перадаючая станцыя) спыніцца з 1 красавіка 2014 года ў Шаркаўшчыне, з 15 мая - у Віцебску, з 1 жніўня - у г.п. Абухава (Аршанскі раён), з 1 лістапада - у Лёзна, 10 сакавіка 2015 г. - у Асвеі (Верхнядзвінскі раён), 1 красавіка 2015 г. - г. ва Ушачах, 15 мая 2015 года - у Браславе і г.п.Бычыха (Гарадоцкі раён).

На тэрыторыі Віцебскай вобласці ў цяперашні час магчымы прыём сігналаў лічбавага вяшчання ад 12 лічбавых тэлевізійных перадатчыкаў, размешчаных у г.п. Астровенец Ушацкага раёна (40 ТВК, разліковы радыус зоны абслугоўвання перадатчыка - 51 км), Бягомлі Докшыцкага раёна (40 ТВК, адпаведна 27 км), Віцебску (43 ТВК, 55 км), Лёзна (43 ТВК, 12 км), г.п . Бычыха Гарадоцкага раёна (43 ТВК, 27 км), г.п. Краснасельцы Браслаўскага раёна (43 ТВК, 36 км), Шаркаўшчыне (43 ТВК, 23 км), г.п. Абухава Аршанскага раёна (25 ТВК, 44 км), г.п. Азерцы Талачынскага раёна (25 ТВК, 36 км); Сянно (25 ТВК, 35 км), г.п.Асвея Верхнядзвінскага раёна (61 ТВК, 37 км), г.п.Горы Расонскага раёна (61 ТВК, 41 км).

Па стане на 8 ліпеня 2013 года ахоп насельніцтва рэспублікі лічбавым тэлевізійным вяшчаннем стандарту DVB-T складае 96,07%, у тым ліку ў Віцебскай вобласці - 88,7%.

Згодна з Дзяржаўнай праграмай укаранення лічбавага тэлевізійнага радыёвяшчання ў Рэспубліцы Беларусь да 2015 года і Плана мерапрыемстваў па паскораным укараненні лічбавага тэлевізійнага вяшчання ў Беларусі ажыццяўляецца пераход на лічбавае эфірнае тэлевізійнае вяшчанне. У цяперашні час праходзіць паралельная эфірная трансляцыя аналагавых і лічбавых тэлевізійных праграм. Тэрмін заканчэння трансляцыі тэлевізійных сігналаў у аналагавым фармаце рашэннем Дзяржаўнай камісіі па радыёчастотах пры Савеце бяспекі Рэспублікі Беларусь № 27К/09 ад 23.09.2009 года ўстаноўлены да 17 чэрвеня 2015 года....

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Спецыялісты "Беларуськалія" прагназуюць вялікія страты пасля выхаду іх партнёра – "Уралкалія" са складу Беларускай калійнай кампаніі (43 % рынку ў свеце).

**Мінск.** Хоць за апошнія 10 гадоў, як заявіў вучоны-эканаміст Л. Злотнікаў, у вытворчасць і інфраструктуру АПК краіны ўклалі 40 млрд. USD, сёння гэта галіна ў Беларусі – банкрут.

**Барысаў.** Прэс-служба Рымска-каталіцкага касцёла ў Беларусі пацвердзіла факт арышту па нібыта шпіёнскаму скандалу мясцовага ксяндза беларуса Уладзіслава Лазара.

**Мінск.** У Следчым камітэце Беларусі пацвердзілі, што сёлета толькі ў галіне будаўніцтва ўзбуджана ўжо больш 80 крымінальных спраў, КДБ затрымаў вярхушку Белспажыўсаюза.

**Баранавічы.** Тэрыторыя раёна і суседніх Ляхавіцкага, Івацэвіцкага і Пружанскага стала пагражальнай зонай АЧС, там знішчаць усё пагалоўе свіней на панадворках насельніцтва.

**Мінск.** Глава Мінсельгасхарча Беларусі Л. Заяц прызнаў цяжкасці з рэалізацыяй мяснай прадукцыі і істотны недабор ураджаю збожжа азімых культур з-за зацяжной зімы.

**Светлагорск.** Жыхарам раёна загадалі неадкладна забіць усіх свіней для прадухілення распаўсюджвання афрыканскай чумы, у Нароўлі сталі прымаць свінiну па 30 тысяч.

**Магілёў.** Падчас рабочай паездкі па вобласці прэм'ер-міністр Беларусі М. Мясніковіч даручыў аб'яднаць ільнозаводы краіны ў рэгіянальныя холдынгі з філіяламі на месцах.

**Мінск.** На 30 хвілін былі спынены ранніцай рух цягнікоў на ўчастку ад станцыі метро "Магілёўская" да станцыі "Трактарны завод" з-за пажару на ўзроўні касавай залы.

**Брэст.** Паблізу абласнога цэнтра ў вёсцы Страдзічы пагранічнікі выявілі сярод дзялак цэлае поле паўгектара каноплі, як 600 кг потым скасіла і спаліла міліцыя.

**Мазыр.** Позна вечарам у пасёлку Крынічны двое мужчын без маташлемаў разбіліся на квадрацыкле "Aserbis", на месцы ДТЗ ад удару ў дрэва з іх загінуў 38-гадовы кіроўца.

**Мінск.** Самай папулярнай сёлета стала ў ВНУ спецыяльнасць "міжнароднае права" на факультэце міжнародных адносін БДУ, прахадны бал для паступлення там вырас да 388.

**Касцюковічы.** Жыхары вёскі Бялынкавічы парадаваліся за свайго земляка, 50-гадовага палкоўніка ФСБ РФ Ігара Сідаркевіча, які ўзначаліў вайсковую паліцыю Расіі.

**Лагойск.** За халатнасць абласны суд пакараў 3 гадамі калоніі-пасялення дырэктара і старшага майстра райгаза, па іх віне адбыўся выбух газа ў доме ваеннага гарадка.

**Мінск.** У вядомага беларускага мадэльера А. Варламава канфіскавалі маёмасць, пасля вызвалення ў зале суда ён не стаў абскарджваць прыгавор. Варламаў вучыцца зноў хадзіць.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Аблсельгасхарч вырашыў у 7 раёнах ад Оршы да Шуміліна ў зоне 100 км ад ачагоў афрыканскай чумы поўнасцю знішчыць свіней на панадворках і дзікіх кабаноў.

**Дуброўна.** Людзей вельмі ўстрывожыла, што ў суседнім Ярцаўскім і яшчэ трох раёнах Смаленскай вобласці Расіі выявілі новыя ачагі афрыканскай чумы свіней.

**Віцебск.** Следчы камітэт завяршыў расследванне справы па факце выбуху каля будынку абласнога КДБ, там самаробнае прыстасаванне ўзарвала 42-гадовая віцяблянка.

**Талачын.** Буйную партыю ранняй бульбы адгрузяў у Маскву мясцовы кансервавы завод па цане 3,3 тыс. рублёў за кг , на зіму ў сучасных сховішчах тут закладуць яе 24 тысячы тон.

**Верхнядзвінск.** Паблізу латвійскай граніцы пагранічнікі ў грузавым цягніку пад вуглём знайшлі і затрымалі грамадзяніна Грузіі, які нелегальна хацеў трапіць на тэрыторыю ЕС.

**Глыбокае.** Райцэнтр упрыгожылі каля абноўленага Дома культуры новыя арыгінальныя металічныя скульптуры "дрывасека" і "мужычка з гармонікай", людзі тут сталі фатаграфавацца.

**Лепель.** Днём у райцэнтры 61-гадовы пенсіянер, кіруючы іншамаркай, наехаў на 9-гадовага хлопчыка, які на веласіпедзе выехаў на дарогу і загінуў ад атрыманых траўм.

**Полацк.** На дарозе з Верхнядзвінска паблізу вёскі Ахотніца міліцыя затрымала дваіх 35-гадовых жыхароў Наваполацка, якія гандлявалі псіхатропным рэчывам – амфетамінам.

**Пастаўы.** За сродкі шэфаў, Пастаўскага мэблевага цэнтра дырэкцыя СШ №3 да новага навучальнага года замяніла ўваходныя дзверы, вадаправодныя краны, свяцільнікі.

**Віцебск.** Пасля сямі гадоў сумеснага жыцця сям'я Груганавых дачакалася нараджэння ў абласным клінічным раддоме адразу тройні – сыночка і дзвюх дзяўчынак вагой разам 6 кг.

**Гарадок.** Рэжысёр кінастудыі "Беларусьфільм" Яўген Надтачэй у рамках цыкла "Замалёвак "Аповесць мінулых гадоў" пачаў здымкі мультыплікацыйнага фільма пра райцэнтр.

**Докшыцы.** У рамках праграмы культурнага абслугоўвання жыхароў аддаленых вёсак у Крыпульскім сельсавеце правялі свята "Наша дача хороша" з выставай дароў прыроды.

**Лепель.** Пасля ліквідацыі пад раніцу пажару ў вёсцы Гарадзец выратавальнікі МНС знайшлі ў абгарэлай хаце трупы двух мужчын і жанчын, якія напярэдадні напіліся.

**Полацк.** Услед за чарнічным і малочным фестывалямі на возеры Белае на тэрыторыі Азінскага сельсавета правялі другі па ліку чэмпіянат раёна па лоўлі ракаў рукамі.

**Віцебск.** З-за адсутнасці прэміяльных шпраг вядучых моцных футбалістаў пакінулі ФК "Віцебск", не чакаючы завяршэння 1-га круга, у каманды няма шанцаў вярнуцца ў вышку.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Раля Меллер:

# Глыбокае – паветра чыстае, прыемнае, як добрае віно!

***Раля Меллер, 83-гадовая жыхарка Ізраіля ўпершыню праз 72 гады наведала Глыбокае, горад свайго дзяцінства.***

■ **Уладзімір Скрабатун**

### Сустрэча з Глыбокім праз 72 гады

Насупраць помніка савецкім воінам, якія загінулі за вызваленне Глыбокага, стаяла сталага веку жанчына, чытала надпісы на мемарыяльных плітах.

– Скажыце, калі ласка, што за людзі тут пахаваныя?– пытае яна ў аўтара гэтых радкоў, які праходзіў побач.

***– Салдаты, якія загінулі за вызваленне Глыбокага ў часе нямецкай акупацыі.***

– Але тут сказана, што яшчэ і 85 партызанаў, але прозвішчаў іх – няма,– кажа яна. І помнік пра тое кажа – злева партызан, справа салдат.

***– А Вы, праўдападобна, здалёку прыехалі? Адкуль?***

– З Ізраіля. Мне – 83 гады, а ў Глыбокім я – праз 72 гады, прыехала разам з сынам, якому 41 год. Завітала нас дванаццаць чалавек. Ёсць сярод нас яшчэ глыбачане, як напрыклад, 90-гадовы Леў Іоффе, які прыехаў з сынам і сям'ёй – шэсць чалавек разам. А таксама Лідзія Абрамсан, у часе нямецкай акупацыі, яшчэ малой, згубіла тут усю сваю сям'ю. Наша дэлегацыя прыехала на жалобныя мерапрыемствы з нагоды сумнай даты – 70-я ўгодкі ліквідацыі акупантамі глыбоцкага гетта.

– Вось тут, праўдападобна, дзе ўваход у сквер, насупраць гэтага помніка, колісь да вайны стаяў мой дом. Але за дзесяцігоддзі ўсё так змянілася, я – не пэўная.

***– Можа я Вам дапамагу? Вось там – будынак колішняй бібліятэкі (вул. Леніна, 14). Да вайны там была "Цукерня", слодычы прадавалі.***

– О так! "Цукерня", "Цукерня"! Памятаю! Вось насупраць «Цукерні» на вуліцы Замкавай і стаяў наш родны дом …



**Раля Меллер (у дзявоцтве – Беркман) у скверы Перамогі. На заднім плане – будынак колішняй бібліятэкі. За «польскім часам» – «Цукерня», насупраць «Цукерні» і стаяў бацькоўскі дом.**

### Здарэнне ля "Цукерні"

– Успомніўся адзін выпадак, што адбыўся насупраць "Цукерні", гэта значыць і насупраць майго дома. Была я малой, перабягала маставую вуліцы Замкавай, спяшалася да сваёй сяброўкі Рыўкі Умбраз. Раптам на мяне наязджае аўта мэра Глыбокага. Ляжу на маставой. Аўта спынілася. Мая рука апынулася пад колам аўтамабіля. Усе разгубіліся, стаялі і баяліся выцягнуць маю руку з-пад кола, каб не зрабіць яшчэ горш. Не разгубіўся гаспадар "Цукерні" сп. Умбраз. Яго брат быў асілкам і недзе ён нават выступаў. Але і сам гаспадар валодаў здольнасцямі асілка, падышоў і прыўзняў аўта. Тата вынуў маю руку з-пад кола. Узяў на рукі. Сам мэр Глыбокага хуценька на аўта павёз мяне ў шпіталь. У мяне цяпер адзін палец крыху карацейшы, няма там косткі…

– Ну, што – едзем цяпер праз 72 гады ў Глыбокае зводзіць рахункі з новым мэрам!– пажартаваў мой сын Дані перад ад'ездам з Тэль-Авіва.

### Бацька быў рэдактарам глыбоцкай газеты

– Мой бацька Еўна Беркман быў рэдактарам мясцовай глыбоцкай газеты. Як журналіст меў права вольнага ўваходу ў кінатэатр. Я асабіста з гэтага добра карысталася, хадзіла з Рыўкай Умбраз, дачкой гаспадара "Цукерні", вольна на дзённыя сеансы. Займалі ложа. Калі на экране быў страшны эпізод – Рыўка палохалася і закрывала далонямі вочы.

Акрамя таго мой тата быў захоплены фатаграфіяй, меў сваё фотаатэлье. Фотаатэлье знаходзілася ў нашым доме, які стаяў насупраць "Цукерні".

### У чым стаялі – у тым і пайшлі!

– 22 чэрвеня пачалася вайна… Мы разумелі, што нічога добрага для яўрэяў яна не прынясе. Толькі смерць. 25 чэрвеня, на трэці дзень вайны, мы пайшлі на Усход. Нічога з сабой не бралі, толькі самае неабходнае. Кажучы проста – у чым стаялі, у тым і пайшлі.

– Шлі ўночы пешшу, перахоўваліся ў лесе, бо лёталі нямецкія самалёты. Так мы дайшлі да Калугі. Потым ужо на фурманцы дабраліся да Магнітагорска на Урале. Там жыла маміна сястра.

– Маміна сястра, якая жыла ў СССР, нікoлі і нікому не прызнавалася, што яе блізкая радня жыве ў Польшчы. Гэта ў сталінскія часы было небяспечна, маглі залічыць да "польскіх шпёнаў".

### Глыбокае – паветра, як добрае віно!

– Мой сын – які не размаўляе па-руску – перад паездкай на Беларусь пытае: «Што такое Глыбокае?»

– Вялікая вёска, глухмень!– кажу сыну. І смецця вакол – шмат!

Што я ўбачыла праз 72 гады, калі ізноў вярнулася ў Глыбокае! Чысты горад! Утульны! Прыгожы! Горад, які развіваецца! Хаджу цяпер па Глыбокаму і дыхаю яго паветрам – яно чыстае, прыемнае, ап'яняе, як добрае віно!

Нас прынялі тут вельмі цудоўна: добрае харчаванне, добрыя нумары ў гатэлі, мелі сустрэчу з вашым цяпершнім мэрам, ён апякуецца намі, дзякуй вялікі яму!

Я даўно хацела наведаць Глыбокае. Некалькі разоў была ў Вільні, Друскеніках. Аднак здабыць беларускую візу неяк усё не выпадала.

***– Мо Вы не бачылі помнік***

*Заканчэнне на стар.5*



**Раля і мама Ніна побач са сваім домам па вул. Замкавай у Глыбокім. На месцы дома цяпер – сквер Перамогі.** *Фота з сямейнага альбома Ралі Меллер.*



**Раля Меллер (справа) – з сяброўкай на вул. Замкавай, 1930-я гг.** *Фота з сямейнага альбома Ралі Меллер.*
Дом справа (Леніна, 5) – захаваўся, але зменена форма даху.



**Раля (злева) і Рыўка Умбраз, дачка ўладальніка «Цукерні», 1930-я гг. Рыўка загінула разам з сям'ёй пры лівідацыі немцамі глыбоцкага гета.** *Фота з сямейнага альбома Ралі Меллер.*
На заднім плане – колішняя кляштoрная сажалка, на месцы якой цяпер кансервавы завод, за сажалкай – царква.

*Працяг са стар. 4*

***адраджэнцу іўрыту Эліэзэру Бэн-Ягудзе?***– пытаю ў госці з Ізраіля.

– Не.

***– Хадзем, мы Вам пакажам. Недалёка.***

Ідзём па вуліцы Леніна, колішняй Замкавай.

– Вось гэтае месца я памятаю!– кажа спадарыня Раля. Паказвае на спуск да ракі Беразвіцы ад пошты, каля маста, як ісці у бок дзіцячай пляцоўкі.

– Тут, узімку, мы каталіся на санках, спускаліся да ракі. Толькі горка тады была крыху вышэйшая.

Мы падышлі да Алеі Славы. Госця цікавілася ўсімі помнікамі, якія стаяць на Алеі Славы. Тлумачу – хто ёсць хто. Пра Корсака чула даўно. А вось і помнік Эліэзэру Бэн-Ягудзе.

– Так, ён такі і быў на выгляд, вельмі дакладна ўвасобіў ягоны партрэт скульптар! – А ці ведаеце вы, што абедзве яго жонкі былі з Глыбокага?– пытае спадарыня Раля.

***– Так, ведаем,***– кажу. ***– Калі першая жонка памерла, ён ажаніўся на яе роднай сястры.***

### Архітэктар, эканаміст, паэт

– Пражылі мы на Урале да 1945-га. Потым была рэпатрыяцыя. Мы ж – колішнія грамадзянеПольшчы.Паехалі ў Польшчу. Там я вучылася на архітэктара два гады. Потым, дзесьці ў 1950-м, паехалі на сталае жыхарства ў Ізраіль, дзе яшчэ працягвала два гады вучыцца на архітэктара. Хацелася быць бліжэй да прафесіі мужа. Муж мой Марк – скульптар. Але архітэктарам я працавала нядоўга, галоўнае – пабудавала свой дом. Потым скончыла і эканамічны факультэт. Працавала галоўным эканамістам горада Савіён (Savion). Гэта нават не 15, а ўсяго – 13 хвілінаў язды да Тэль-Авіва, то можна скажаць – я жыву ў Тэль-Авіве.

– Вершы пісала з дзяцінства. І цяпер пішу на іўрыце.

***– То, можа, маеце некалькі кніг?***

– Не! Пішу для сябе, для душы. Кнігі? Навошта! Мой тата выдаваў кнігі ў Ізраілі. Досыць і гэтага.

***

На развітанне Раля Меллер падаравала нам сувеніры і талісманы, якія былі прывезеныя ёю з Ерусаліма. Запрасіла нас, з кім правяла гэты шпацыр па горадзе: аўтара гэтых радкоў, унучку, жонку і ее сястру, якая прыехала ў Глыбокае з Латвіі, да сябе ў нумар у гатэль паказаць здымкі з часоў свайго дзяцінства.

Мы пагадзіліся. Гатэль, на дзіва, нас вельмі ўразіў. Ніяк не параўнаць з тым, што было пару гадоў таму! Еўрарамонт! Утульна! Прыемна!

Мы разглядалі старыя здымкі... На іх – Глыбокае, якога ўжо няма: іншыя вбарысы, іншыя людзі, Глыбокае, дзе да вайны было больш за палову яўрэйскага жыхарства, а Глыбокае яўрэі называлі «маленькім Данцыгам».

Назаўтра мы ізноў убачыліся, але ўжо на жалобным мерапрыемстве…

# Балюча і страшна вярнуцца ў мінулае...

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Жахлівая трагедыя адбылася ў Глыбокім у жніўні 1943 г., 70 гадоў таму, калі нямецка-фашысцкімі акупантамі было знішчана каля 12 тысячаў яўрэяў, вязняў гета. Іх знішчылі толькі за тое, што былі яны яўрэямі.**

На жалобныя мерапрыемствы прыбыла дэлегацыя з Ізраіля, у складзе якой былі і колішнія жыхары Глыбокага, якія цудам пазбеглі смерці.

Жалобныя мерапрыемствы адбыліся ў скверы па вул. Чкалава, дзе пахавана 4500 расстраляных вязняў глыбоцкага гета.

Былі прамовы ад грамадскасці Глыбокага, ад раённага Савета дэпутатаў. Усе выступоўцы падкрэслівалі трагічнасць падзеі, якая засталася незагойнай ранай і праз сем дзясяткаў гадоў. Усе задавалі адно пытанне: як магло такое стацца? Чаму забівалі людзей толькі за прыналежнасць да яўрэйскай нацыянальнасці? І адказу няма! Хіба, адзін – такой была фашысцкая ідэялогія, звярынае аблічча нямецкага фашызму і яго фюрара. За ўяўную перавагу арыйскай расы над іншымі расамі і народамі – былі пакладзены мільёны і мільёны жыццяў ні ў чым не вінаватых людзей!



На гэтае жалобнае мерапрыемства людзі прыйшлі і прыехалі – зблізку і здалёку, – каб сказаць: такое ніколі не мусіць паўтарыцца! Будзем пільныя!

Прамаўлялі і госці, якія прыехалі на жалобу, колішнія жыхары нашага горада, якія цудам ацалелі ад расстрэлу.



**Ускладанне кветак ад грамадскасці і жыхароў Глыбокага, гасцей з Ізраіля да помніка ахвярам гета па вул. Чкалава.**

Лідзія Абрамсан не змагла стрымаць слёзы, не магла прамаўляць... Тут на яе вачах – малой дзяўчынкі – расстралялі маці і ўсіх сваякоў. Яна пайшла дадому, да суседзяў... Горад стаў не той – пусты і глухі! Нікога наўкола!

Шмат дзён дзяўчо ішло туды, куды вочы глядзелі: лясамі, пушчамі, балотамі, мокла пад дажджамі, ела грыбы і ягады... 200 кіламетраў прайшла аж пад горад Беразіно, дзе ў лесе сустрэла партызан атрада Радзівонава. Партызаны прытулілі дзяўчынку.

У 1944 годзе, пасля вызвалення Глыбокага, Лідзія вярнулася ў Глыбокае... Зноў нікога, толькі спалены і знявечаны горад.

Нягледзячы на салідны 90-гадовы ўзрост прыехаў і колішні жыхар Глыбокага Леў Іоффе з сынам, які нарадзіўся ўжо пасля вайны. З Львом Іоффе, разам, прыехала шэсць членаў яго сям'і. У Льва Іоффе 70 гадоў таму, у гэтыя жахлівыя дні таксама загінула ўся яго сям'я.

Балюча і страшна вярнуцца ў мінулае...

Жалобныя мерапрыемствы адбыліся таксама і ў Беразвецкім бары, дзе ў раёне колішняга аэрадрома знаходзяцца дзве магілі і помнікі ахвярам фашысцкага генацыду.



**Леў Іоффе (трэці ад права) прыехаў з сям'ёй у складзе з шасці чалавек, злева – яго сын.**



**На здымку:** **Лідзія Абрамсан (злева ад мікрафона) не можа стрымаць слёзы, не можа прамаўляць.... Тут, на яе вачах – малой дзяўчынкі – расстралялі маці і ўсю яе сям'ю.**

# Помніку князю Альгерду – быць

■ **Кліменцій Кожан**

**Працяг.**

*Пачатак у №№32,33 за 2013 г.*

Альгерд пасадзіў князем у Кіеве свайго сына, які па такім выпадку прыняў праваслаўе. Кіеўскія святары, якія праводзілі абрад хрышчэння, назвалі яго Уладзімірам, абазначыўшы сувязь паміж хрысціцелем Кіеўскай Русі Уладзімірам і вызваліцелем старажытнага горада ад татараў. Узнікае пытанне: як можна вызваліцеля Русі ад ардынскага іга называць "злодеем Руси"?

Потым Маскоўскае княства, выконваючы загады Арды і пад уплывам страты Ардой Кіева, пачало вайну са "строптивым" Вялікім Княствам Цвярскім. Цвер звяртаецца за дапамогай да Альгерда, і той выступае ў яе абарону. У 1368 годзе Альгерд асадзіў Маскву, дзе схаваўся маскоўскі князь Дзмітрый, тры дні прастаяў каля сцен і пайшоў назад. У 1370 годзе Альгерд, натхнёны перамогай над Ардой, рашыў заадно разграміць і Тэўтонскі Ордэн. Войска, якім кіравалі Альгерд з Кейстутам і іх сыны Ягайла і Вітаўт, уварвалася ў Прусію і было разбіта пад замкам Рудава Вялікім магістрам Ордэна. Маскоўскі князь Дзмітрый быў вельмі рад нашаму паражэнню ў вайне з немцамі і ў жніўні 1370 года направіўся са сваёй маскова-татарскай раццю на Цвер. Вялікі князь Цвярскі Міхаіл Аляксандравіч зноў збег ад усходняга суседа да нас, а маскова-татары Дзмітрыя спалілі гарады Зубцоў і Мікулін, разграбілі і спалілі многія рускія сёлы, узялі многа рускіх палонных у ардына-маскоўскае рабства. Альгерд толькі да канца года змог сабраць новыя войскі для адпору агрэсіі Масквы супраць Цвеpы. Зноў асадзіўшы Маскву, Альгерд заключыў з Дзмітрыем "вечны мір". Умовы дагавору нечым пакрыўдзілі цвярскога князя, які звярнуўся да Мамая і атрымаў ад яго ярлык на вялікае княжанне. Маскоўскі князь Дзмірый меў ярлык ад праціўніка Мамая Тахтамыша. У 1371 годзе маскоўскі князь Дзмітрый напаў на Разань, праз год на Цвер. Зноў за Цвер заступіўся Альгерд. Ён, яго брат Кейстут і сын Андрэй Полацкі асадзілі Пераяслаўль-Залескі. Андрэй Полацкі зараз ваяваў супраць Дзмітрыя, праз 8 гадоў будзе пераможцам у Кулікоўскай бітве 1380 года, а загінуў у бітве пад Ворсклай за ВКЛ.

У любым выпадку ясна: маскоўскія князі, выступаючы агрэсарамі супраць Русі, абаранялі Арду. А Альгерд і яго войскі абаранялі і вызвалялі нашы землі ад татар і немцаў. Арцём Дзянікін падкрэслівае:

"Альгерд – гэта вялікі ВЫЗВАЛІЦЕЛЬ нас ад татарскага і нямецкага іга. Ён адстаяў свабоду ад гэтага іга ліцвінаў (беларусаў), ён вызваліў ці гэтаму садзейнічаў для цяперашніх дзяржаў Украіны , Летувы і Расіі, дзе яму за гэта павінны ставіць помнікі. Калі б Альгерд не вызваліў ад Арды Кіеў, то не было б сёння ні Расіі, ні Украіны. Там была б сёння Арда. Без вызвалення Маці гарадоў Рускіх і "ў сапраўдным значэнні Русі" – не было б жадання Масквы дыстанцыравацца ад Арды. Уся гісторыя пайшла б інакш.

Без Альгерда ў нас была б зусім іншая гісторыя. Украіна і Заходняя Расія (былыя часткі Кіеўскай Русі) былі б разбаўлены, як цукар у кіпятку, у цюрскай цывілізацыі Залатой Арды. А ВКЛ-Беларусь была б заваявана немцамі. Разам з землямі Пскова і Ноўгарада і цяперашнімі трыма краінамі Балтыі мы б сёння былі часткай "германскага свету" і гаварылі б на нямецкай мове."

*Працяг будзе.*

